# Парадоксы Хрушчова

Калі звычайна ў кажнай заходняй дзяржаве ёсьць тры клясы, што дзеляцца паводля сацыяльнага становішча, дык у Савецкім Саюзе — дзьве, што дзеляцца паводля палітычнага становішча, гэта значыць кіруючая й кіраваная. Апошняя складаецца з работнікаў і сялянаў паміма таго, што інтарэсы вёскі й гораду былі й астаюцца рознымі. Ня гледзячы на штучнае ўтоесамліваньне вёскі й гораду пад шыльдай пралетарыяту, Масква сваю галоўную ўвагу зьвяртала на горад, паколькі на першым пляне стаяла пытаньне індустрыялізацыі СССР. Насельніцтва вёскі, да прыходу да ўлады Хрушчова, аставалася вонках увагі Крамля, ды й сам тэрмін «колхознік» ужываўся з пэўнай іроніяй і нясмакам.

Пасьля прыходу да ўлады Хрушчова кола савецкае палітыкі ў дачыненьні да вёскі павярнулася на 180 градусаў. Ад калгасьнікаў ня толькі вымагаюць, але й пачынаюць лічыцца зь імі. Калі цяпер прыймаючы «абавязацельствы» ня толькі павысіць прадукцыю сельскагаспадарчых культураў, але й будовы школаў і шпіталяў, поруч з подпісамі сакратароў партбюро й камсамольскіх арганізацыяў, стаяць подпісы савецкіх даярак і сьвінарак, дык гэта не таму, што Хрушчоў пачуў да іх раптоўную слабасьць і захацеў выпхнуць іх у людзі. Як прызнаўся сам Хрушчоў на пленуме ЦК КПСС 17-га студзеня, што ён сам быў пастухом, а вось народ і партыя пасталі яго на становішча першага сакратара ЦК КПСС і старшыні Рады Міністраў. Чаму стаўся раптоўны паварот савецкае палітыкі тварам да калгаснае вёскі? Каб адказаць на гэтае пытаньне, прааналізуем больш падрабязна ход разьвіцьця савецкае эканомікі.

Разбудаваўшы цяжкую прамысловасьць, здавалася-б, бальшавікі далі крыніцу даходу гарадзкому насельніцтву, а разам з тым і вышэйшы ўзровень жыцьця работнікам, а адначасна і збыт калгасам свае прадукцыі. У запраўднасьці-ж атрымалася адваротнае: цэны на прадукцыю гораду былі даступнымі, рэч іншая, што гэтае прадукцыі не ставала. Затое ізь сельскагаспадарчых прадуктаў хлеба заўсёды не ставала, а мяса, масла й малака зусім ня было, не гаворачы ўжо аб мясных ці кандзітарскіх вырабах, якія ў СССР і да гэтага часу зьяўляюцца рэдкасьцю.

Калі ў нармальных умовах горад трымае вартасьць грошаў, дык у Савецкім Саюзе горад зрабіў адваротнае. Работнікі грошы мелі, а купіць за іх ня мелі чаго. Такім чынам і атрымаліся чыста савецкія тэрміны: ня «купіць», а «дастаць»; не «прадаюць», а «даюць». Гэта ўсё з прычыны адсутнасьці на рынку ня толькі прадуктаў лёгкай прамысловасьці, але галоўна сельскагаспадарчых прадуктаў. Значыць, ня было праблемы мець грошы, а была праблема, дзе «дастаць» бульбы, гародніны, мяса й г. д. Мімаволі тут паўстае пытаньне: чаму-ж вёска не магла забясьпечыць патрэбаў гораду? Вёска знаходзілася тады і знаходзіцца цяпер у заняпадзе. Да гэтага спрычыніліся тры фактары:

1. Пры разбудове цяжкае індустрыі Крэмль ня кіраваўся патрэбамі абслугоўваньня ці задаваленьня попыту цывільнага насельніцтва на прадукты першае патрэбы, а сваімі чыста захопніцкімі тэндэнцыямі, характэрнымі хіба толькі Маскве. З гэтай мэтай разбудоўвалася індустрыя, якая мела перадусім або ваеннае або прапагандовае значаньне (Беламор-Балтыйскі канал, штучныя спадарожнікі зямлі, ракеты на месяц і г. д.). Ня маючы тавараў лёгкае прамысловасьці з прычыны адсутнасьці хвабрык, імпарт таксама не практыкаваўся з тыхжа самых прапагандовых мэтаў. Што-ж аставалася для савецкага чалавека апрача тых фантастычных абяцанак, якімі ўжо 40 год так шчодра надзяляе Масква падбітыя ёю народы? Хіба нічога, апрача стаяньня ў чарзе за хлебам ці камсою й чаканьня аднекуль нейкіх няведамых зьменаў.

2. Другая прычына часткава выплывае зь першае. Паколькі ўся індустрыя зьвернута на ўзбраеньне, сельскагаспадарчых машынаў заўсёды не ставала. Калгасьнікі зь недахопу цягучае й працоўнае сілаў не маглі справіцца з пастаўленымі камуністычнай дыктатурай перад імі заданьнямі ў вытворчасьці сельскагаспадарчых прадуктаў. Да таго вялікая часьць мужчын зь вёскі былі накіраваныя ў Сібір на руднікі ці загатоўкі лесу як дармовая працоўная сіла, з загадзя падрыхтаваным кляймом ворага народу, а моладзь зноў часткава знаходзілася ў арміі, а часткава ў розных школах тыпу Ф. З. О., таксама як бясплатныя работнікі. У калгасах-жа асталіся жанчыны й дзеці і з калгаснай гаспадаркай, зусім зразумела, без дапамогі машынаў справіцца не маглі.

3. З момантам ліквідацыі прыватных гаспадарак і арганізаваньня калгасаў, селянін страціў усялякую зацікаўленасьць працаваць у дзяржаўных маёнтках на ненавісную яму дзяржаву, ня маючы з гэтага абсалютна ніякае асабістае карысьці. З гэтага-ж моманту пачынаецца пасыўны супраціў вёскі ў дачыненьні да камуністычнае ўлады.

У рэзультаце гэтага сельская гаспадарка апынулася ў катастрафальным стане, за што пасыпалася каменьне на сакратароў абкомаў, крайкомаў ды й ня мінула некаторых першых сакратароў рэспубліканскіх ЦК. Як ведама, Масква ніколі ня прызнавалася да зробленых ёю памылак. Частка адказнасьці за такі стан сельскае гаспадаркі лягла на Сталіна (зразумела, пасьля ягонае сьмерці!), частка на Бэрыю (пасьля ягонага арышту), а часткава, проста, прамаўчвалася. Зусім ня выключана, што й Хрушчову прыдзецца адказваць.

З прыходам да ўлады Хрушчова вёска ў сілу абставінаў пачала паволі выплываць на першы плян. А ў апошнія гады, дык і зусім на кажным пленуме разьбіраюцца пытаньні крутога ўздыму сельскае гаспадаркі й электрыфікацыі Савецкага Саюзу, як галоўныя галіны савецкае эканомікі на сяньняшні дзень.

Хрушчоў пачаў сваю «эру» з кукурузы. Паводля яго, кукуруза павінна была памагчы найболей танна і з прысьпешаным тэмпам падняць сельскую гаспадарку ці хоць-бы выцягнуць яе з таго катастрафальнага стану, у якім яна знаходзілася тады і... да сяньняшняга дня.

Да гэтага часу кукуруза сябе не апраўдала і можам быць больш як пэўнымі, што ў будучыні яна не апраўдае ўзложаных на яе надзеяў Хрушчова. І гэта з наступных прычынаў: крамлёўскі «непамыльны папа» загадаў сеяць кукурузу ня толькі там, дзе яна расьце — на поўдні СССР, але і ў заходняй ягонай частцы. Кукуруза ніколі не радзіла, а тымбольш не дасьпявала ў Беларусі ці Прыбалтыцы. Каб выканаць накінуты Масквою плян ды не папасьці пад абстрэл самога Хрушчова, а ў меру магчымасьці ўтрымацца на становішчы першага сакратара для пасеваў кукурузы адпускаюцца найлепшыя землі, угнаеньні й найбольшая частка працоўнага часу й працоўных рук. У рэзультаце гэтага занядбоўваюцца іншыя сельскагаспадарчыя культуры, як нпр., у Беларусі пасевы лёну, канопляў, бульбы й г. д. Для прыкладу возьмем Беларусь, якая здала дзяржаве ў 1950 г. — 30 мільёнаў пудоў збожжа, а у 1960 г. ўсяго 11 мільёнаў пудоў. Атрымала збожжа ад дзяржавы ў 1950 г. 5 мільёнаў пудоў, а ў 1960 г. — 28 мільёнаў пудоў (гл. «Комсомольская Правда», 22 студзеня 1961). Вось рэзультат «кукурузнае» палітыкі Хрушчова на Беларусі!

Пасевы кукурузы ў Савецкім Саюзе рэалізуюцца на корм, а гэта значыць, што галоўная ўвага Хрушчова зьвернутая на падняцьце ўзроўню жывёлагадоўлі, каб такім чынам забясьпечыць гарадзкое насельніцтва мясам, малаком і маслам. Іначай, колькі-б разоў ён не мяняў грошаў — вартасьць іхняя будзе заўсёды адказваць цэнам чорнага рынку. Вось тут знаходзіцца ключ савецкае прапаганды: дагнаць і перагнаць Амэрыку ў прадукцыі мяса, масла й малака.

Паколькі галоўная ўвага Крамля зьвернута на прадукты жывёлагадоўлі, дык і на першы плян пачалі выцягвацца тыя, ад каго гэтая прадукцыя залежыць у першую чаргу. Такім чынам у калгаснай вёсцы ўтварыліся штучныя дзьве клясы» сьвінаркі, даяркі з аднаго боку й «радавыя» калгасьнікі з другога. Такія парадоксы могуць мець месца толькі ў Савецкім Саюзе, дзе пастух кіруе дзяржавай, маючы неабмежаваную ўладу й ня маючы над сабою ніякага кантролю.

**Ул. Сьцяблевіч**

## КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

# «Беларуская Моладзь» № 8

Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА) ўжо трэйці год выдае свой ілюстраваны квартальнік «Беларуская Моладзь». Свае заданьні часапіс вызначае гэтак» а) быць для моладзі крыніцай ведаў аб Беларусі й беларускім народзе; б) быць арганізацыйным лучнікам беларускае моладзі на эміграцыі; в) памагаць узгадоўваць моладзь на добрых Беларусаў і грамадзянаў; г) прышчапляць моладзі замілаваньне да роднага слова.

Часапіс «БМ» распаўсюджваецца галоўна ў Задзіночаных Штатах і Канадзе. Ён рассылаецца таксама й па іншых краёх Захаду — усюды, дзе жывуць маладыя Беларусы.

Апошні восьмы нумар «БМ» прысьвечаны Калядам і Новаму Году з багатым разьдзелам хронікі з культурнага й арганізацыйнага жыцьця беларускае моладзі ў Амэрыцы.

З часапісу відаць, што нашая моладзь вялікую ўвагу прысьвячае мастацкай самадзейнасьці. Відаць гэта ня толькі з хронікі. Гаворыць пра гэта й абвестка пра вялікі (228 балонак) Беларускі Песенны Зборнік, складзены кампазытарам Міколам Куліковічам, а выдадзены аддзелам ЗБМА ў Кліўледнзе.

Паведамленьне аб выхадзе ў сьвет ды заахвочаньне набыць і пашырыць беларускі сьпеўнік суправаджаецца няўмірушчымі словамі Янкі Купалы:

Зазьвіні ты, як звон, і удар, як пярун,  
Песьня наша, як воля, магучая!  
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,  
Хай нясуцца ў сьвет рэхі грымучыя!

У справаздачным артыкуле пра 9-ты зьезд ЗБМА гаворыцца аб традыцыйным цесным супрацоўніцтве Згуртаваньня з украінскімі арганізацыямі моладзі ды аб удзеле ЗБМА ў міжнацыянальным Эўрапэйскім Інстытуце, што займаецца ўзгадаваньнем моладзі эўрапэйскіх уцекачоў.

З часапісу даведваемся, што ЗБМА бярэ таксама дзейны ўдзел у амэрыканскім нацыянальным жыцьці. Гэтак, прыкладам, апошні нумар «БМ» паведамляе пра ліст, высланы ЗБМА ў Белы Дом напярэдадні леташніх выбараў амэрыканскага прэзыдэнта. У тым лісьце беларуская моладзь пісала пра патрэбу большае зацікаўленасьці з боку Амэрыкі долям паняволенага расейскім камунізмам беларускага народу. У часапісе апублікаваны таксама й адказ на гэны ліст міністэрства замежных справаў з Вашынгтону. У вадказе гаворыцца: «Белы Дом пераслаў нам копію вашага ліста, прысланага нядаўна ў гасподу Прэзыдэнта для азнаямленьня нас з паглядамі вашае арганізацыі. Мы ўдзячныя вам за выказаньне сваіх паглядаў — на іх узятая ўвага адпаведнымі аддзеламі міністэрства».

Квартальнік «БМ» значную ўвагу прысьвячае беларускай гісторыі. У часапісе зьмяшчаюцца гэрбы старых беларускіх местаў, фатаграфіі беларускіх нацыянальных рэвалюцыянераў, іхныя біяграфіі. У кажным нумары часапісу даюцца артыкулы з цыклю «Старэйшыя малодшым». У іх падаецца гісторыя вызвольнага змаганьня нашага народу за сваю дзяржаўную незалежнасьць. У апошнім восьмым нумары «БМ» зьмешчаны ўспамін А. С. «Калісьці ў Менску». У артыкуле апісваецца вялікая нацыянальна-ўзгадавальная работа з моладзяй, якую праводзілі ў Менску ў часы Першае сусьветнае вайны беларускія пісьменьнікі й навуковыя дзеячы, як Ядвігін Ш., Язэп Лёсік, Аркадзь Смоліч, Уладыслаў Галубок, Зьмітрок Бядуля й інш. Вельмі цікава апісваецца сустрэча з Максімам Багдановічам і першае чытаньне ягонае несьмяротнае «Пагоні».

«Беларуская Моладзь» частку сваіх матар'ялаў зьмяшчае ў вангельскай мове, каб маладыя чытачы маглі выкарыстоўваць іх у гутарках із сваймі амэрыканскімі сябрамі. Гэтак, у апошнім нумары зьмешчаны артыкул «Піянеры беларускага культурнага адраджэньня». У ім расказваецца пра беларускіх пісьменьнікаў і рэвалюцыянераў другое палавіны 19-га стагодзьдзя: Францішка Багушэвіча, Кастуся Каліноўскага, Ігната Грынявецкага, Няслухоўскага, Гурыновіча, Кастравіцкага.

Паангельску зьмешчана таксама паведамленьне аб тым, што тыя маладыя Беларусы ў Амэрыцы, якія маюць адслужваць амэрыканскую армію, могуць свой двухгадовы тэрмін адбыць на працягу шасьцёх месяцаў, калі яны ведаюць беларускую або якую-небудзь іншую славянскую мову. Падобныя весткі выдаўцы часапісу зьмяшчаюць вельмі ахвоча, бо яны падтрымваюць намаганьні ЗБМА замацоўваць і разьвіваць у сваіх сяброў веды аб сваім народзе й гатовасьць служыць яму ўсім, чым магчыма.

**Я. Запруднік**

---

прышчэпленую акупантам, вынішчыць забабоны, цемру...

Лютае сонца так нагрэла атмасфэру, што навет птушкі, спыніўшы свае сьпевы, пахаваліся пад кусты ў цянёк. Нагрэты пясок раскапанай Гарадзецкай гары быў гарачым і пабліскваў золатам пад сонечнымі промнямі. Зьвінелі заступы дзесятка работнікаў аб схаваныя ў груньце камяні. З напруджаным выглядам, седзячы на перавернутай уверх дном скрыні, Раман з увагай разглядаў здабытыя з пад зямлі чарапкі, абточаныя ў форме стрэлаў каменьчыкі, рэшткі зброі, і іншыя рэчы хатняга й культурнага ўжытку. На пярэднім пляне, у раскошных скураных ботах, якія ён асьцерагаўся замачыць у падглебавай вільгаці, таптаўся з рыдлёўкай Зенька. Зірнуўшы на яго, Раман усьміхнуўся й паклікаў да сябе:

— Ну, як, Зенька, знайшлі свой скарб?

— Ды ня відаць нешта, трасца на яго?

— Ну, ня хлусь — знайшлі...

— Ды не, далі бог — не, што-ж, я сабе яго забраў?

— Будзь удзячным. Ты паглядзі, колькі багацьця адкапалі мы тут! Некаторыя праляжалі пад зямлёй больш за дзьве тысячы год...

— У-га! Колькі-ж гэта будзе, калі мерыць на чалавечыя жыцьці? Здаецца, дужа даўгі кавалак часу.

— Ды калі лічыць на чалавечыя жыцьці, дык, ма быць, каля двух сотак, лічачы па сотцы на жыцьцё...

— А божачкі! Значыць не дзяды і прадзеды елі із гэтых гаршкоў, а нейкія там двохсоткавыя... Тут, навет, і не вада на кісялю!

— Дакладна падлічыў, — адгукнуўся Раман, з зьдзіўленьнем пазіраючы на Зеньку. — Каб табе ды школа, дык хоць у міністры, тварыць гісторыю...

— Ды я яе і так твару, бо без маіх рук вось вы і тут не абыйшліся...

У гэты час да іх падыйшла Сабіна, якая таксама прыймала ўдзел у экспэдыцыі.

— Хіба няпраўда? Вось хай яна пацьвердзіць, бо з табойжа разам прайшла ўсе навукі, — працягваў Зенька. — Разам хадзілі за сямнаццаць вёрстаў да шяолы, пазьней разам вучыліся ў месьце...

Праўда, Зенька, — згадзіўся Раман. — Народ творыць гісторыю, у тым ліку і ты. Але, народ мусіць і паважаць здабыткі сваёй творчасьці, сваёй гісторыі...

— Ты яму пакажы чортавы пальцы, — умяшалася Сабіна.

Раман падыйшоў да аднае із скрынь і падняў у ёй вечка.

— Во, бачыш, колькі іх было тут нахавана?

— А ніводнага! — катэгарычна адмовіў Зенька.

— Як, ты ўжо ня верыш у нячысьцікаў?

— Ды хто яго ведае, неяк вычхалася ўсё гэта із зьменай часу...

— А палец гэты ўсё-ткі яшчэ носіш у запазусе?

— Баба нажы ім точыць у хаце...

— А памятаеш, як ты мяне «пражыў» на Ярылавым агні?

Зенька сьмяяўся.

— Дык вось, ты ведаеш, што такое Ярылаў агонь? Гэта сьвяты агонь бога Ярылы, у якога верылі тыя людзі, што вось тутака жылі і рэчы якіх мы цяпер адкопваем!

— Ага, мой дзед яшчэ апавядаў, як тутака недзе на гары стаялі яшчэ сьцены іхнай бажніцы!

— Гэта магчыма, — згадзіўся Раман, падумаўшы.

Экспэдыцыя па раскопках у Гарадзішчах скончылася ў канцы верасьня, калі, звычайна, сьвяткуюцца дажынкі. Каб пакінуць аб гэтым памяць у народзе, Раман, як кіраўнік экспэдыцыі, загадаў прывезьці воз добрых дроў, падрыхтаваць сталы і лаўкі, прыдбаць бочку піва й вядро гарэлкі. У вёсцы былі закуплены парасяты, гусі, пара бараноў. На гэты баль былі запрошаны ўсе — і мужчыны і жанчыны — як суродзічы і аднавяскоўцы. Сабіна падпарадкавала сабе гаспадарчую частку, гэта значыць — падрыхтоўку да сталоў. Калі сьцямнела, запалілі кастры. Жанчыны мітусіліся каля іх з патэльнямі і чыгункамі, варучы і пражучы. У зоркавую ціхую высь падымаўся смачны пах падсмажаных кавалкаў. Калі закускі былі ўжо на сталох і пах ад іх, што падымаўся слупікамі разам з парай у гару, пачаў дражніць прысутных, Раман узьняў сваю шклянку, напоўненую шыпучай вадой, і прамовіў:

— Вып'ем, сябры і суродзічы, за хутчэйшае паўстаньне зь мёртвых нашага народу, нашай бацькаўшчыны, за тое, каб яна заняла належнае месца сярод іншых краін, і за тое, каб у ёй шчасьліва жылося чалавеку...

Воплескі заглушылі астатнія ягоныя словы. Калі шум улёгся, ён закончыў свой тост:

— Хай Ярылаў агонь натхніць нас на бліскучыя высілкі, каб усё гэта зьдзейсьнілася неўзабаве...

І тады высунуўся з натоўпу Зенька, з шклянкай піва ў руцэ.

— Дазволь-жа нам, наш выдатны суродзіч, падзякаваць табе за навуку, за тое, што ты раскрываеш нам вочы...

Пасьля першых-жа чарак і шклянак піва народ разьбіўся на грамадкі. Ніхто імі ня кіраваў і не камандваў. Яны самі сабе знаходзілі тэмы для гутарак і заняткі: адны сьпявалі, другія танцавалі пад скрыпку Раманавага дзядзькі Андрэя і жалейку Зенькі, які выказаў у гэтай ігры віртуознасьць, трэйція, асабліва моладзь, забаўляліся й скакалі каля кастроў. Нейкі дзяцюк узброіўся відэльцам і пустой патэльняй і такія адбіваў такты, што пары пусьціліся скакаць пад ягоную музыку...

* * *

І вось ён сядзіць у маленькай будцы нейкай заўральскай каменяломні. Сіберны вецер вые за будкай, злосна стукаецца ў дзьверы, кружыць пургой над адзіным вакенцам. Раман жывець тут адзін, як вартаўнік гэтае каменяломні. І дзень і ноч ён думае толькі аб адным: вось прыйдзе час, ён вернецца ў сваю каханую старонку і зноў возьмецца за тую працу, якую прыпыніў яму злосны лёс, гэтакі ўжо гэты Раман. Сядзіць ён і пазірае на выклееены на сьцяне фотамалюнак, на якім зьнятая ягоная апошняя экспэдыцыя па раскопках. Зялезная печка зырка пылае перад ім. На століку, зьбітым з звычайных няструганых дошчак, ляжыць невялікая скураная тэчка, якую яму вярнулі назад пры вызваленьні зь лягераў прымусовых працаў на «вольнае пасяленьне». У гэтай тэчцы старанна складзены ўсе дарагія для яго напамінкі аб каханай радзіме: сямейны патрэт, на якім ён зьняты разам з бацькам і маткай, пасьветчаньне аб сканчэньні «народнага вучылішча» у сваёй вёсцы, пасьветчаньне з залатымі літарамі аб сканчэньні «Выше-Начального училища» і дыплём аб заканчэньні вышэйшай асьветы з атрыманьнем навуковай годнасьці. А сярод іх, у васобным канвэрціку, кароценькая пісулька, зашмальцаваная рукамі ад вельмі частага даставаньня і зноў хаваньня, у якой было напісана:

**«Любы і найдаражэйшы, мой Ромусь!**

**Можа гэтай пісульцы пашчасьлівіцца патрапіць табе ў рукі — перадаю яе цераз надзейных людзей. Цяжка, сэрца маё! Ня так цяжка гэтая катарга, як усьведамленьне таго, што перапынілі нашу працу, што чужыя людзі, жывучыя на нашай замлі, не дазваляюць нам рабіць таго, чаго мы хочам, ды яшчэ і жадаюць ад нас, каб мы абплёўвалі саміх сябе, свае традыцыі, культуру, мову, сваіх прашчураў. Ну, і пэўна-ж, цяжка для мяне наша разлука.**

**Варкута.** **Навечна твая Сабіна.»**

**(Канец)**

**Мікола Цэлеш**

*Фэльетон*

# Аб тым, як «родная партыя» даганяе й пераганяе

Не ад учарашняга загнязьдзіліся былі ці ў ваднаго чалавека сумлевы адносна посьпехаў «роднай партыі» ў даганяньні й пераганяньні Амэрыкі. Чуеш, што нормы выконваюць ды кажны дзень перавыконваюць, ад аднае сьвінаматкі па трыццаць шэсьць парасят маюць, даяркі надойваюць і перадойваюць, гнаяркі падчышчаюць і гэтак далей і г. д. Чуючы ўсю тую прапагандовую траскатню, здавалася-б, што ўжо набралі-ж такога імпэту й разгону, што калі дзе падарозе ў якую каўдобіну ня шлёпнуцца, дык абавязкова дагоняць. Але ўсё ня тое. Глядзіш і адстаюць. І чуеш зьверху лаянку «роднай партыі», а пасьля ўжо й ніжэй зьвяганьне большых і меншых цівуноў. І яшчэ больш натужваецца тады на самым нізе няшчасны прыгоньнік, яшчэ больш душыць шыю й забірае дыханьне мулкае ярмо.

Чуеш аб машынах. Кажуць, што едуць на самых першаклясных трактарах, калупаюць магутнымі экскаватарамі, адвозяць саракатонньімі самазваламі, мітусяцца на масквічох і волгах, ды як грыбы пасьля цёплага летняга дажджу растуць па рэках і лужынах розныя ДРЭсы. Коратка — ўсюды прагрэсы. З гэтага боку акіяну цяжкавата й разабрацца часам, хто й на чым ці на кім едзе. Адно — крычаць, што едуць. Хочаш вер, хочаш ня вер. Раз крычаць, што гоняць, а пасьля канца сямігодкі й вунь дзе нас усіх вольных ззаду пакінуць, дык хто вас ведае.

Каб у калгасьніка дзядзькі К. быў карацейшы язык і каб цётка, што паехала з Польшчы наведаць свае старыя мясьціны ў Бэсэсэрыі, не напісала свайму аднаму сябру на Захадзе, ды каб той сябра не падаў у «Бацькаўшчыну» вытрымак зь цётчынага ліста, нам яшчэ й доўга мо не адкрыліся-б вочы. Але-ж у тым то й балячка «роднай партыі», што ў дзядзькі К. даўжэйшы язык, чым належылася-б яму мець паводля партыйных інструкцыяў. Дык і даведаюцца добрыя людзі аб той мітрэнзе з дагонамі й перагонамі.

«Ды мы яшчэ нязгорш жывём, — гаварыў калгасьнік дзядзька К., які штодзённа мусіць турбавацца, адкуль заўтра зьявіцца ў рот скарынка хлеба, — каму ў калгасах найгорш, дык гэта коням. Ты бачыш, як яны выглядаюць? Інакш яно й быць ня можа. На полі яны нас выручаюць, работы ім хапае, бо цехніка стаіць — няма запчасьцяў. Шкада мне коней, — уздыхнуў дзядзька К. — Ня коні, а біткі — ледзьве ногі цягаюць».

Вось дзе яно шыла зь мяха наверх вылазіць. Значыцца, цехніка стаіць, бо няма запчасьцяў і ў калгасах найгорш коням.

Коні ўсіх выручаюць.

Няцяжка ўявіць сабе, у каго мусіла-б пазычаць вачэй «родная партыя», калі-б у сваей прапагандовай барабаншчыне ёй давялося перад добрымі людзьмі прызнацца, што асновай, на якой адбываюцца ўсе тыя мітусьлівыя дагоны й перагоны, зьяўецца к-о-н-ь. Магчыма, што «родная партыя» папярхнулася-б з сораму. Але хто ад яе таго чакае.

Дык паколькі, дзякуючы дзядзьку К. мы ўжо ўстанавілі «ісьціну» гэтак званага сацыялістычнага прагрэсу й ведаем, што перапрацаваны, заежджаны й зацяганы недакормлены Сіўка, Гняды й Вараны стаўся асноўным штурмавіком бастыёнаў камуністычнай будучыні ды вось-вось, згодна словаў самага найбольш роднага Мікіты Сяргеевіча, мае неўзабаве перакрочыць парогі ад сацыялізму да камунізму, давайце на пару хвілін пакінем на баку «ачагі» камуністычнай прапагандовай жыжкі й кінем вокам на цікавячы нас прадмет: як і чаму сяньня ў краіне «роднай партыі» конь мае такое пачэснае заданьне й вязе ці валоча на сваім схудзелым хрыбце асноўны цяжар «найбольш прагрэсыўнай з усіх прагрэсыўных».

Конь, як усім не ад учарашняга ведама, найбольш пачэсная й вартасная хатняя жывёліна. Ён і вязе й цягне й валоча і ўгнойвае ды й ці мала што іншае робіць. Конь, як далей таксама ўсім ведама, заваяваў сабе надта-ж трывалкае й ганаровае месца і ў гісторыі чалавецтва. Адно кіньце вокам на гістарычныя малюнкі, скульптуру, прыгадайце помнікі, якія вам давялося бачыць.

Як дзе які слаўнейшы ваяка, дык абавязкава на кані. Што й гаварыць, дзе быў-бы чалавек без каня, калі-б ад каменнага стагодзьдзя конь не захацеў вазіць на сваім хрыбце вояў, араць палёў, а намагаўся адно між зялёнай травіцы ўлегцы забаўляцца. Дзе, дазвольце спытаць вас, быў-бы сяньня цывілізаваны людзкі сьвет, калі-б ня конь?

У сэрцы Беларуса-селяніна ды й нагул Беларуса каню адведзены асабліва цёпленькі куточак. Пачынаючы хаця-б ад нашага нацыянальнага гэрбу, аб якім вялікі Багдановіч пісаў:

Ўсе лятуць і лятуць тыя коні,
Срыбнай збруяй далёка грымяць,
Старадаўняй крывіцкай Пагоні,
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць.

- Якая, пытаюся вас, была-б Пагоня без каня?

Аб, тым, што конь быў, ды як відаць і цяпер ёсьць, у нас асноўнай цяглавой сілай на родных нівах, аб тым, што яго з пашанай прыгадваюць у народных песьнях, аб тым, што добрыя гаспадары некалі фарсілі добра дагледжанымі коньмі й пілнавалі іх, як свайго вока, аб тым, што й наагул гаспадара пазнавалі па ягоным кані, аб гэтым усім навет лішне й гаварыць. Але ўсё гэта было да часу, пакуль нарадзілася «родная партыя». Зьмянілася жыцьцё прыдушанага народу ды ўжо зусім зьніякавеў лёс каня.

Ёсьць розныя вэрсыі адносна таго, калі й чаму пачалі касурыцца на каня марксістоўскія вочы «роднае партыі». Казка апавядае, што яшчэ падчас галадоўкі ў трыццатых гадох Сосо выкінуў каня з крамлёўскага кабінэту, калі здыхлаты Сіўка прыйшоў прасіць харчавых картак. — Трактары маю! — загрымеў дыктатар. — яны цяпер будуць мае палі араць. Вон здыхляціна!

Іншыя цьвердзяць, што у марксістоўскіх вачох «роднае партыі» зусім падупаў у той час, як самая партыя была прыціснутая да сьцяны ды чатырохногі яе ня выручыў. Гэта калі вусаты гэрой грамадзянскай бальшавіцкай вайны разбазарыў пад Кіевам у часы «ацечасьцьвеннай вайны» ня толькі сваю коньніцу, але й паўмільённую «доблестную», ды калі зрабіў у фроньце вялікую дзірку, ды праз тую дзірку наехалі паглядзець, што робіцца каля Харкава й Растова, гэта тады паклікаў Сосо да сябе амаль легэндарнага гэроя й заехаў яму ледзь ня легэндарную аплявуху. Ад таго часу, як відаць, ня толькі пайшла ў нябыт будзёнаўская коньніца, але й зрабіўся пастаянным ахвярным казлом у марксістоўскіх вачох «роднае партыі» носьбіт усіх гэтых няшчасьцяў партыі — конь.

Як і калі ды чаму конь так пасьлізнуўся ў Бэсэсэрыі, нам бліжэй няведама. І адгадываць не пачнем. Вунь з гэнага боку людзі маюць на такія кудлатыя праблемы шмат казённага часу. Прысьвяціць хоць мінімум увагі гэтай улзячнай справе прапануем бэсэсэраўскім гісторыкам, што ў сваей новай трохтомнай гісторыі будуць разматываць крывуліны таго, як беларускі народ цэлае сваё жыцьцё імкнуўся да ўзьяднаньня з «братнім вялікарускім» і — бобікам-літаратарам, што нядаўна пачалі калупацца каля пошукаў вытокаў соцрэалізму ў беларускай перадкастрычніцкай літаратуры.

Адчуваючы вялікія сымпатыі да перапрацаванага й недакормленага бэсэсэраўскага каня, з камічнай усьмешкай даводзіцца прыглядацца да заклапочаньня «роднай партыі». Дзядзька К. кажа, што конь недакормлены й ледзь ногі валочыць таму, што «калі не палавіну, дык трэйцюю частку аўса пушчае „на бок" магазынер — і яму жыць трэба». Гэта ясна. Там дзе блат, хабаршчына й зладзейства, ды «родная партыя» цалюсенькі час штурхае, каб даганялі й пераганялі, інакш і быць ня можа.

Ды было-б усяго яшчэ паўбяды, каб Гняды мусіў рабіць толькі за сябе. Але-ж уявіце, якая ў тым конская віна, што сацыялістычная «самая перадавая» індустрыя, ня можа настарчыць для трактароў запасных часьцяў і што цехніка стаіць? Што вінаваты Гняды? І вось хмыліцца на гэны адзін ці другі бязьдзейны на полі трактар зацяганы й недакармлены конь. Ды мусіць на сваім, нагадваючым шкілет, хрыбце ўсю «родную партыю» ды й меншых і большых цівуноў-капаў у тых дагонах і перагонах да прагрэсу валачыць. Адно калгасьнікам спагадлівым сэрцы баляць.

І як тое сталася, што дагэтуль самая мудрая «родная партыя» ня ськеміла, што конь можа абыйсьціся й без аўса, які «на бок пушчае магазынер» і што прысьпяшыць тыя дагоны й перагоны можа. Гэта-ж узважце — адно сьмяхоцьце, братцы. Як то маглі дагэтуль не дадумацца?

Вунь на днях давялося нам бачыць у бэсэсэраўскім часапісе старшыню калгаса, які на грудзёх сваіх дзесяць (падумайце — аж дзесяць!) бляшак-мэдаляў рэклямаваў. Уявіце, як чалавек мусіць душыць і падганяць прыгонны народ ,каб аж дзесяць «роднапартыйных» бляшак здабыць!

А ці «родная партыя» не падумала над тым, што й коням бляшкамі можна імпэту паддаць. Чаму-ж не? Як-ні-як, а папробаваць можна. Катораму выдатнейшаму, калі дзе сьпераду ўжо месца на ардэны ня хопіць, дык можна з тузін на хвост начапіць. Можна-ж спэцыяльныя конскія з маленькімі шорхавачкамі зрабіць. І уявіце-ж толькі, як гэта было-б пацешна. І «роднай партыі» была-б карысьць і народу. Можна-ж для коняў перадавікоў-ударнікаў і тытулы ўвесьці. Прыкладна — Роднапартыйны Перагоншчык, або Усесаюзны Цяглавік. Аб тытулах прапановаў «роднай партыі» падаваць ня будзем. Там ізноў-жа бобікі-казёньнікі з другога боку маюць на гэта шмат часу.

І вось як вам падабаецца такое? Цягне, вылазячы, як той казаў, із сваей худой скуры, калгасны плуг здыхлаты, масай ордэнаў сьпераду й ззаду абчэплены, Роднапартыйны Перагоншчык, Усесаюзны Цяглавік, Носьбіт Хрушчоўскай Конскай Працоўнай Прэміі, Дваццаць Чатыры Разы Ардэнаносец Сіўка. Што хвастом па дакучлівых насякомых не махне, дык прычэпленыя да хваста ардэны «роднай партыі», ажно бражджаць- заходзяцца ад захапленьня. Якая гэта цудоўна — натхняючая «карціна» для тварцоў соцрэалістычнай літаратуры! Які глыбокі «ачаг» для інхных натхненьняў! І якія новыя й шырокія гарызонты адчыняюцца для збыту працоўных ардэноў, для павялічэньня ліку гэрояў «сацыялістычнай працы», ды якія бязьмежныя палі для тварцоў соцрэалістычнай літаратуры. І самае найважнейшае, ды й не апошняе: — як ямчэй паімчацца да прагрэсу ўсе тыя здагоны й перагоны! Ня ўсьпееш і агледзецца, як Амэрыка з-заду за хвастом Гэроя-Сіўкі астанецца.

Вось дзе прост-напраст геніяльная ідэя для вас, таварышы з «роднай партыі». Чаму-б не папробаваць, пытаюся? Згода?

Ну дык давайце! Гайда!

**М. К.**

# Сёе-тое

**(Заканчэньне з 1-ай бачыны)**

(Заканчэньне з 1-ай бачыны)

род. Што было-б, прыкладам, на апошняй 17-й Алімпіядзе ў Рыме, калі-б Беларусь выступала самастойнай? Імя нашай бацькаўшчыны красавалася-б вышэй Францыі, Ангельшчыны, Швэцыі, Фінляндыі, Нарвэгіі, Аўстрыі й дзясяткаў іншых. Іншае, калі здабыткі Беларусаў запісаны на карысьць агульнага маскоўскага крывасмока.

Гэта ўсім добрым людзям ясна. Адно нейкі І. Аўсішчар прабуе зрабіць чорнае белым (гл. «Голас Радзімы», № 94 (479). Ён палемізуе з Аркадзем Будзічам, што пісаў у «Бацькаўшчыне» п. заг. «Палітыка ў савецкім спорце».

Аўсішчар паўтарае, што «ўсе народы нашай краіны аб'яднаны ў вадзіную дружную сям'ю». Ага, чулі. Там-жа ў «обшчым кацялку» ёсьць і «незалежная й сувэрэнная». І далей: «У каманду Злучаных Штатаў Амэрыкі, якая выступала на Алімпійскіх гульнях, таксама ўваходзілі людзі розных нацыянальнасьцей. А каманда Вялікабрытаніі ўключала прадстаўнікоў Англіі, Шатляндыі і Ірландыі». Гэтага мы ня чулі. Вось дзе цымус!

Ані Шатляндыя, ані Англія (часьць Вялікабрытаніі) ці Паўночная Ірляндыя ня ёсьць «незалежнымі й сувэрэннымі», навет паводля глузду «роднай партыі». Дык грош цана такому параўнаньню.

Дэградацыя беларускай каманды на алімпійскіх гульнях да ўзроўня, а то й ніжэй, маскоўскай ці ленінградзкай, гаворыць сама за сябе. Маскоўскія рабаўнікі рабавалі наш народ зь ягоных здабычаў і рабуюць. Усім добрым людзям гэта даўно ясна й нічога новага тут бобік Аўсішчар ня выдумае.

*

Аўтару гэтага артыкулу даводзіцца моцна чырванець за перадчасны камэнтар у справе правакацыйнага бальшавіцкага верша «Грэх на сэрцы цяжкі», зьмешчанага ў № 70 «Голасу Радзімы» і падпісанага «М. Кавыль». Спадара Кавыля перапрашаем і астаемся з пашанай.

**Міхась Козыр**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

# Зь беларускага жыцьця

## XII-ы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе

У днях 28-29-га студзеня сёлета адбыўся ў Тароньце XII-ы Зьезд Сяброў і Дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе. Акрамя мясцовых сяброў, былі й дэлегаты ад аддзелаў з Садбуры й Лёндану і ад новаствоpанага аддзелу ў Монтрэалі.

Зьезд пачаўся адсьпяваньнем «Беларусь наша маці-краіна». Вёў яго сп-р Г. Барановіч, а сакратараваў сп-р А. Маркевіч. Ад мясцовага сэктару Рады БНР Зьезд вітаў сп. мг-р А. Грыцук.

Грашовы абарот ЗБК ў мінулым годзе быў 6 917 дал. 79 ц.; з гэтага палова выпадала на прыход, а другая на расход. Уступаючы старшыня сп. М. Ганько зацеміў, што фактычна грашовы абарот перавысіў 15 тыс. даляраў. Справа ў тым, што ў вабарот ня ўлічваліся грошы, выдаткаваныя на вечарыны ў БРГЦ, на пікнікі, ані таксама пакрыцьцё гэтых расходаў; адно ўлічваўся чысты прыход зь імпрэзаў, якіх было звыш дваццаці.

У справаздачах з працы аддзелаў выявілася, што жыцьцё ў іх плыло ўжо даволі нармальным і ўцёртым шляхам акрамя хіба монтрэальскага, які адно становіцца на ногі. Колькасьць сяброў у арганізацыі значна павялічылася й ёсьць усе перадумовы, каб расла далей.

Прысутныя выразілі вялікае задаваленьне тым, што нарэшце пакладзеныя добрыя пачаткі між вялікай беларускай калёніяй ў Монтрэалі. Першая калядная імпрэза зь ялінкай для дзяцей і танцамі для ўзрослых мела там вялікі посьпех. Людзі, як відаць, ёсьць зацікаўленыя беларускім нацыянальным жыцьцём. Аддзел мае плян зрэалізаваць у бягучым годзе куплю грамадзкага дому. Гэтага ім ад душы жадаем.

Меў чым пахваліцца й лёнданскі аддзел, хаця сяброўка сп-ня Л. Рагуля зрабіла гэта па сваей ініцыятыве. Належачы да згуртаваньня канадыйскіх жанчын зь унівэрсытэцкай асьветай, яна пры дапамозе іншых сяброўак арганізацыі атрымала дазвол ад лёнданскай адукацыйнай рады і сяньня ў пачатковай школе вучыць малых дзетак беларускіх танцаў. У час, аб якім сп-ня Л. Рагуля гаварыла, вучыла яна Крыжачка. Гэткім чынам, хоць пакуль што й сьціпла, Беларусы даюць і свой уклад у канадыйскую культуру.

Із справаздачаў вынікала, што найслабей стаялі культурна-асьветныя справы. У гэтым найменш віны тых дзейнікаў ЗБК, што хацелі працаваць, а найбольш бацькоў дзетак, якіх яны не хацелі пасылаць у беларускую школу, з-за свае нясьведамасьці. І калі гаварыць ужо аб бацькох, дык мы-ж ведаем, што ворагі нашы вечна дзяўблі нам аб нашай ніжэйшасьці, адсталасьці і г. д. Людзі й сяньня яшчэ не ачунялі. Эміграцыйныя арганізацыі могуць адно часткова направіць зробленую шкоду й то пры добрай волі зацікаўленых. І такім чынам кульгае справа із школкай для малых дзетак, кульгае й тая для падрастаючых і для моладзі. А асыміляцыйны працэс ня спыняецца. Ці ня час арганізацыі па ўсіх аддзелах самую асноўную ўвагу прысьвяціць якраз справе навучаньня беларускай мовы нашых дзяцей. І калі трэба пачаць з апрацоўкі нясьведамых ці неахвотных бацькоў дык і на гэта трэба знайсьці раду.

Найбольш увагі ў дыскусіях над справаздачамі ўступаючай Галоўнай Управы прысьвечана было суадносінам ЗБК зь Беларускім Нацыянальным Аб'яднаньнем. Як ведама, да гэтага часу гэтыя дзьве арганізацыі ў Торонта супольна ладзілі сьвяткаваньні нацыянальных гадавінаў, быў створаны г. зв. каардынацыйны камітэт і добрыя людзі меркавалі як-бы пашырыць добра пачатае супрацоўніцтва. І тут, як ня дзіва, на перашкодзе станула ці то грамадзкая нявыpабленасьць некаторых ці навет брак добрай волі. Із свайго боку XII-ы Зьезд ЗБК выразіў гатовасьць далей супрацоўнічаць ня толькі з БНА, але і зь іншымі зацікаўленымі беларускімі арганізацыямі на мясцовых грунтах, адно каб тыя не манапалізавалі сабе агульных здабычаў. У гэтай справе была аднагалосна прынятая Зьездам рэзалюцыя. Канкрэтна гаварыла яна, што ў супольных нацыянальных урачыстасьцях ЗБК-БНА функцыі ў вядзеньні акадэміяў такія, як старшыня, дакладчык і інш. маюць чаргавацца.

Пасьля ўдзяленьня з падзякай абсалюторыюм уступаючым ворганам Згуртаваньня выбраныя новыя ў наступным складзе:

**Галоўная Управа:** Старшыня — М. Ганько, сябры, што мелі падзяліць функцыі на паседжаньні пасьля Зьезду, наступныя: мг-р А. Грыцук, Г. Барановіч, А. Маркевіч, Кулеш, Н. Чорная і Н. Сільвановіч.

**Наглядная Рада:** В. Жук, Я. Чорны, Л. Жураўскі.

**Сяброўскі Суд:** А. Протас, К. Акула і Вольга Грыцук.

У плян працы ўведзены былі і мерапрыемствы для пашырэньня беларускіх газэт, часапісаў і кніжак. ЗБК мае зарганізаваць раз у год месяц беларускае кніжкі, кіёскі ў грамадзкіх будынках і памагаць беларускім выдавецтвам на эміграцыі ў мабілізацыі фінансавых сродкаў. Будзе зьвернутая й большая ўвага на зборкі сродкаў для дапамогі патрабуючым Беларусам выгнаньнікам у Заходняй Эўропе, пераважна інвалідам-вэтэранам у Нямеччыне.

Аднагалосна прынята пастанова аб падвышшэньні сяброўскіх складак ЗБК, што дагэтуль былі 50 цэнтаў, да аднаго даляра на месяц.

Зьезд закончыўся ў нядзелю 29-га студзеня а гадз. 6-й вечарам адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

У сыботу вечарам у залі Грамадзкага Цэнтру адбылася вялікая вечарына. Прысутных было вельмі шмат і было, як кажуць, цесна ды пацешна.

**М. К-р**

# АД РЭДАКЦЫІ

У 43-ім нумары «Бюлетэню» галоўнае ўправы БАЗА (сьнежань, 1961 г.) зьмешчанае гэткае асьветчаньне: «У сувязі з надрукаваньнем у газэце «Бацькаўшчына» ад 27 лістапада 1960 г. зацемкі «Ад Рэдакцыі» да «Пытаньняў, парушаных сп. К. Мерляком», сябры галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША выказваюць свой пратэст супраць зьмяшчэньня на бачынах газэты «Бацькаўшчына» зацемкаў, якія абніжаюць аўтарытэт старшыні БАЗА, выбранага правамоцнымі дэлегатамі 8-га Кангрэсу БАЗА, а гэтым самым — і аўтарытэт самое арганізацыі».

У сувязі з гэтым рэдакцыя «Бацькаўшчыны» хоча яшчэ раз выясьніць, што яна таксама «супраць зьмяшчаньня на бачынах газэты зацемкаў, якія абніжаюць аўтарытэт старшыні БАЗА, ... аўтарытэт самое арганізацыі» і, дадамо яшчэ, палітычны аўтарытэт нашае эміграцыі наагул. Галоўная ўправа БАЗА, зусім правільна разумеючы палажэньне справы, павінна была-б дзеля гэтага больш дбаць, каб тыя зацемкі, што прысылаюцца ў «Бацькаўшчыну» афіцыйна ад імя цэлае арганізацыі, а так-жа лятучкі, пісаныя прыватна, а падпісаныя ад імя БАЗА, былі больш прадуманыя з глядзішча аб'ектыўнае карысьці беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху, а ня былі-б выяўленьнем пэўных амбіцыяў аднае асобы, што часова апынулася на становішчы старшыні галоўнае ўправы БАЗА ды выкарыстоўвае гэтае становішча для сваіх асабістых палітычных разрахункаў.

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

### ПАПРАЎКА

У № 6 (541) «Бацькаўшчыны» ў артыкуле «Сёе-тое ў правай калёне зьверху трэйці, чацьверты й пяты радкі былі надрукаваны наступна:

«Родная партыя мусіць разьмінулася ў поглядах на беларускі народ з калішнімі **ягонымі** хаўрусьнікамі».

Гэтыя тры радкі маюць чытацца наступна:

«Родная партыя» мусіць разьмінулася ў поглядах на беларускі народ з калішнімі **ейнымі** хаўрусьнікамі.

**М. К-р**




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**